**люцыпар** (люцыпаръ). „Дьяволъ, антихристъ". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 19 — В. Сакалоў).

**люшня** (люшня). „Неряха, неопрятный". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 19 — В. Сакалоў).

**лявоніха** (лявониха). Танец лявоніха. Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 56б — В. Сакалоў).

**ляда** (лядо). Ляда, высека. „Ляды разрубаются только крестьянами по недостатку у нихъ пахотной земли". Далыская вол. Невельскага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с. 569, л. 5). Круглянская вол. Магілёўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 331, л. 3б). Палужская вол. Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 305, л. 1, 1873 г.).

**лякацца** (ляка́цься). „Пугаться. Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 19 — В. Сакалоў).

**ляпешнік** (ляпешник). Дробны хмызняк, які складаецца з алешніку і бярэзніку. Мікулінская вол. Аршанскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 340 а, л. 5).

**лятарня** (летарня). „Фонаръ". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 19 — В. Сакалоў).

**лятоха** (лятоха). Дробны хмызняк, які складаецца з алешніку і бярэзніку. Мікулінская вол. Аршанскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 340 а, л. 5).

**ляха** (леха). Ляха (невялікая градка). „На огородѣ сѣютъ... свеклы двѣ лехи и капусты двѣ лехи" м. Ветрына Лепельскага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с. 558, л. 7).

## М

**мабуць** (мабуць). „Быть можетъ такъ (кали звоняць, то мабуць свято)". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 19б — В. Сакалоў).

**магерка** (магерка). „Шабка (так у аўтора) безъ козырка". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 19б — В. Сакалоў).

**мазгаўня** (мазгавня). „Голова". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 19б — В. Сакалоў).

**мазуры** (мазури). „Мѣщане и дворяне называемая шляхта". Буйнавіцкая вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 226, л. 5).

**майдан** (майданъ). Спецыяльна прыстасаваная яма, у якую складваюцца смалістыя пні для вырабу на дзёгацъ. Палеская вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 365, л. 9).

**мак** (макъ). Мак. „Макъ, подсолнечникъ и горчица употребляются здѣсь для украшенія огородовъ и для домашнего употребленія". Імянінская вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. (ф. 34, с. 49, л. 5)

**макотра** (макотра). „Большой глиняный сосудъ". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 19б — В. Сакалоў).

**маладзец** (маладзецъ). „Ловкій молодой парень". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 19б — В. Сакалоў).

**малако** (молоко). Малако з маку для заправы посных страў. Зарэчна-Талачынская вол. Сенненскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 604, л. 6).

**малацільнік** (молотильникъ). Малацьбіт. Гудзевіцкая вол. Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. (ф. 34, с. 78, л. 1б).

**малодзіва** (молодзиво). „Первое молоко когда родится теленокъ". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 19б — В. Сакалоў).

**маложа** (моложа). Малады зараснік. Гарадзецкая вол. Быхаўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 290, л. 3б).

**малявацъ (малевацъ)**. „Рисовать". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 19б — В. Сакалоў).

**маргéлка** (маргéлка). Шапка, якая зроблена з авечай воўны. Раснянская вол. Чавускага пав. Магілёвскай губ. (ф. 34, с. 298, л. 5).

**маршал** (маршал). Распарадчык на вяселлі. Доньск Пінскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 241, л. 1б, 1874 г.).

**мары** (мары). Насілкі насіць нябожчыкаў. „Дзикага вепра на саняхъ выазуць, Маладога стральца на марахъ нясуць" (з песні). Колкаўскае вучылішча Рэчыцкага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 263, л. 18б).

**маскаль** (москаль). Раскольнік. Вяжышчскі прыход Лепельскага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с. 559, l. 5b).

**матузок** (мотузокъ). „Шнурокъ въ узелкѣ". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 19б — В. Сакалоў).

**матыка** (матыка). Железная загнутая лапатка". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 19б — В. Сакалоў).

**матылі** (мотылі). Хвароба лёгкіх і печані ў авечак. Пастаўская вол. Дзісненскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 414, л. 13).

**махорка** (махорка). Курава з самасада-табакі. Граўжыская вол. Ашмянскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 377, л. 8).

**мацярдушка** (мацердушка). Мацярдушка Origanum Vulgare L. „Для окраски андараковъ (юбокъ) собираются въ лѣсу травы мацердушка (дающая

красный цвѣт). щеточка (синій) и берёзка (зелёный)". Асавецкі прыход Бабруйскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 181, л. 6).

**мачанка** (мачанка). Гліняная печ пры саматужным вырабу дзёгцю. Палеская вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 365, л. 9)

**мерка** (мѣрка). 1. Плата мельніку за помол одной чвэрці збожжа чатырох гарцаў зерна. Славенск Виленскага пав. и губ. (ф. 34, с. 386, л. 3б, 1873 г.). 2. Мера. На „неводъ употребляется 10 человекъ постоянныхъ и 4 лошади.. ещй тридцать человекъ помощниковъ, которые получаютъ вознагражденіе по меркѣ рыбы отъ ловли". Перабродская вол. Дзісненскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 413, л. 3б).

**мень** (мень). Мень. Рыба: „щука, окунь, плотва, мень или налимъ (по-мѣстному — угорь), раки..." Ратайчыцкая вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. (ф. 34, с. 32, л. 9).

**мемельская клёпка** (мемельская клепка). Лесаматэрыял. „Мемельская клепка: копа т. е. 60 штукъ отъ 7 до 10-ти руб." (ад назвы Мемельскій портъ у Аўстрыі). Буйнавіцкая вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 226, л. 7б, 1872 г.).

**мерковаць** (мерковаць). „Раздумывать, соображать". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 19б — В. Сакалоў).

**міжток** (межтокъ). Невялікі праліў паміж азёрамі. Далыская вол. Невельскага пав. Віцебскай губ. (. 34, с. 569, л. 3б).

**мілушка** (милушка). Птушка. „Осенью травили птицъ подъ названіемъ милушекъ" (1866 г.). Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка паміж л. б. р. Прыпяці і р. Пціч Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 9б).

**мінога** (минога). Мінога. Малдачанская вол. Панявежскага пав. Ковенскай губ. (ф. 34, с. 114, л. 7б).

**мірон** (мирон). Мірон, вусач. Нава-Быхаўская вол. Быхаўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 292, л. 8б). Шклоўская вол. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 335, л. 16б).

**млён** (младнъ). Млён (палка ў жорнах). Дружылавічы Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. (ф. 34, с. 45, л. 8б, 1873).

**магілкі** (могилки). Магілкі. «Встречаются большіе стоящіе камни, называемые крестьянами „татарскими могилками"»...«Находятся небольшіе возвышенія съ лѣжащими камнями, называемыми „шведскими могилками"». Палавецкая вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. (ф. 34, с. 29, л. 1).

**можджер** (можджеръ). „Железная ступка". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 19б — В. Сакалоў).

**морг** (моргъ). Морг (мера зямлі). „Полтора морга составляетъ десыатину". Жодзіна Мінскай губ. (ф. 34, с. 197, л. 9, 1873 г.).

**мульма** (мульма). Бульба. «Наш мужичок и руки опуститъ кали мульма (картофель) неуродзиць"». Юр'евічы Барысаўскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 188, л. 3).

**муціць** (муцить). „Врать, обманывать". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 19б — В. Сакалоў).

**мучыца: саліць мучыцай** (солить мучицей). Крыху пасыпаць мукой свіную мешань. Нісімкавічы Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 364, л. 9б).

**мысліві** (мысливый). „Охотникъ ружейный" Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 19б — В. Сакалоў).

**мыт** (мытъ). Мыт. „Болѣзнь лошади мытъ отъ простуды". Біржанская вол. Панявежскага пав. Ковенскай губ. (ф. 34, с. 108/1. л. 11).

**мышка** (мышка). Хвароба рагатай жывёлы. „Мышка появляется отъ неизвѣстной причины... Способ леченія отъ мышки пробиваютъ животному на крестцѣ дыру гвоздомъ и зажигаютъ на крестцѣ вылитую крѣпкую водку". Чарэская вол. Дзісненскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 395, л. 5б, 1873 г.).

**мякіннік** (мякинникъ). Бедны чалавек, які есць мякіну, «„Могилёвские мякинники"... болѣе всего свойственно Чаусскому уѣзду». Раснянская вол. Чавускага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 298, л. 8).

**мяла** (мяло). „Толстое обдѣланное полено, которымъ трутъ макъ, коноплю". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 19б — В. Сакалоў). Удакладняе змест прымаўкі „Ні ў кола ні ў мяла". У 'Тлумач. слоўніку бел. мовы": мя́ла 1. Драўляны таўкач, якім таўкуць бульбу, труць мак і г. д. 2. Аб напаваротным, ныаспрытным, чалавеку (т. 3, стар. 192).

**мянёк** (менёкъ). Мянтуз. «[Сорты рыбы в р. Припять:] щука, язь, карась, судакъ, линъ, разносортная плотка, бѣлуга, менёкъ, сомъ, осетёръ и стерлядь, хоть послѣдняя очень маленьки». Тураў Мазырскага пав. Мінскай губ, (ф. 34, с. 240, л. 3). Шклоўская вол. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 335, л. 16б).

**мянташка** (менташка). „Деревянная дощечка, которую острятъ косу". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 19б — В. Сакалоў).

**мянтуз** (ментузъ). Мянтуз. „Налимъ (по мѣстному названію ментузъ)". Дарагічынская вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. (ф. 34, с. 44, л. 5). Малдачанская вол. Панявежскага пав. Ковенскай губ. (ф. 34, с. 115/1, л. 7б, 1873 г.).

**мярэжа** (мережа). Мярожа. «Ловля рыбы: „неводами, вентерями и жаками или мережами, а раки так называемыми кломлями"». Ратайчацкая вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. (ф. 34, с. 32, л. 9). Тапорская вол. Невельскага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с. 573, л. 7). „В летнее время

ловятъ (рыбу) сѣтями и мерёжами". Царковішчанская вол. Вяліжскага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с. 605, л. 5).

**мятла : пад мятлу** (подъ мѣтлу). Спосаб сяўбы (?) „Расчистка удобныхъ кустарниковъ для хлѣбопашенства производится и потомъ эти кустарники выжигаются, а послѣ засѣваются рожью или ячменемъ подъ мѣтлу, за симъ рожью подъ соху и борону". Старынская вол. Гарадоцкага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с.545, л. 1).

**мяхи** (мѣхи). Зрэб'е (сами нижейшы сорт палатна). Панюхоўская вол. Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. (ф. 34, с. 94, л. 3б).

## Н

**набедрыкі** (набедрики). „Шлея". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 19б — В. Сакалоў).

**набручаць** (набручаты). „Настучала, набручала ще горешь погана" (з песні). Мяднянская вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. (ф. 34, с. 31, л 7б).

**навет** (наветъ). Нават. „Не мѣли страты (потери) наветъ (даже) самомалѣйшей". Асаўляны Пяскоўскай вол. Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. (ф. 34, с. 90, л. 14б).

**нагавацы** (наговацы). „Магкая обувь на ноги" Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20 — В. Сакалоў).

**наглы** (наглый). „Придирчивый (які наглый смолою лезѣ у вочи)" Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 19б — В. Сакалоў).

**нагуморы браць** (нагумори браць). „Умничать (бачъ винъ бере якъ нагумори знаць граматны)". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20 — В. Сакалоў).

**надыбаць** (надыбаць). „Нагнать, найти" Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20 — В. Сакалоў).

**намет** (наметъ). 1. Палатняная хустка або павязка. „На головѣ холстыаной плотокъ или повязка, называемая наметомъ. Это кусокъ домашнего холста въ аршанъ три и болѣе..." Бя-гомльскі прыход Барысаўскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 185, л. 4). 2. Сетка. Ульская вол. Лепельскага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с. 555, л. 8б).

**наметка** (наметка). „4-хъ арш.: узкий холстъ, для головного убора женщинъ (бачъ молодица, кали у наметцѣ)". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20 — В. Сакалоў).

**напляпаць** (напляпаць). „Обросить гразнымъ". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20 — В. Сакалоў).

**напо́лак** (наполокъ). Частка сахі. „...за лемеши и наполок къ сохѣ 1 руб.” Царковішчанская вол. Вяліжскага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с. 605, л. 6б).

**нарад калёсны** (нарадъ колесной). Адзін камплект колаў для воза. „Только всякій почти крестьянинъ сдѣлаетъ для себя соху, борону, нарадъ колесной” Асавецкі прыход Бабруйскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 181, л. 11).

**нарог** (нарогъ). Нарог (частка сахі), лямех. В. Мосар Луцкай вол. Дзісненскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 410, л. 4). Свянцянскі пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 465, л. 7).

**нарот** (наротъ). Нерат. Ульская вол. Лепельскага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с. 555, л. 8б).

**нарытнікі** (наритники). „Войлокъ въ хомутѣ”. Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 19б В. Сакалоў).

**насоў** (насовъ). Род паліто з палатна. Мільчанская вол. Барысаўскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 172, л. 22, 1872–1873 гг.). Бя-гомльскі прыход Барысаўскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 185, л. 3б). Верхняя летняя вопратка без падкладкі з дамашняга палатна. Свянцянскі пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 465, л. 7). „Рубахи, юпки, носовы́ (верхняя лѣтняя одежа) холщевые, армяки, сермяги, суконки и проч.”. Бескатаўская вол. Гарадоцкага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с. 543, л. 3).

**настольнік** (настольникъ). Абрус, настольнік. Івейская вол. Ашмянскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 379, л. 5б, 1872 г.).

**насыр** (насыръ). Рыба. „Вылавливаются сорты рыбы слѣдующія: щука, плоть, лещъ, язь, окунь, судакъ, линъ, карась, сомъ, мень, вьюнъ, уклейка, печкуръ, насыръ и ракъ...” Стрэшынская вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 368, л. 4б).

**наўмысне** (наумысьне). „Нарочно” Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20 — В. Сакалоў).

**нахаба** (нахаба). „Напраслина (отъкуль нанесло на меня гету нахабу)”. Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 19б — В. Сакалоў).

**невад** (нѣводъ). Невад. „Большой неводъ съ крылами 120 м длины”. Пінькавіцкая вол. Пінскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 249, л. 4). Тапорская вол. Невельскага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с. 573, л. 7).

**неваднічы** (неводничій). Старшы ў групе для рыбнай лоўлі. Краснагорская вол. Нова-Аляксандраўскага пав. Ковенскай губ. (ф. 34, с. 166, л. 3).

**невадок** (невадокъ). Рыбалоўная снасць, якая падобна нерату, толькі большага памеру; сажняў у 25. Лунаўская вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 362, л. 10, 1873 г.). „Иногда ловятъ крестьяне волокомъ, сѣткою и неводкомъ: щуку, окуня и плотку, а болѣе никакихъ

рыбъ". Брадзецкая вол. Ігуменскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 207, л. 4, 1872 г.). Невялікі невад. Хаценчыцкая вол. Вілейскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 484, л. 7б).

**негаяцца** (негаяцься). „Не зѣвать." Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 18б — В. Сакалоў).

**непанараві** (непонырави). Не па густу, не па нораву. „Яны намъ непонырави". Раснянская вол. Чавускага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 298, л. 4).

**непераліўкі** (неперелівки). „Опасное положеніе (кали непереливки, то давай богъ ноги)". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20 — В. Сакалоў).

**непрычынны** (непричинны). „Неприкосновенный" Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 19б — В. Сакалоў).

**нерат** (неротъ). Нерат. «Орудія рыбной ловли: „кошы, нероты, ости"». Жыцінская вол. Бабруйскі пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 183, л. 1, 3б, 1873 г.). „Сѣть, неводъ, неретъ". Чорнаруцкая вол. Магілёўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 330, л. 7). Рыбалоўная снасць, якая зроблена з абручоў і пакрыта вязаннем з нітак. Лукаўская вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 362, л. 10, 1873 г.).

**нізбі́на** (низбина). Нізіна. Руднянская вол. Аршанскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 347, л. 1).

**німашацька** (нимашацька). Няма. Бычанская вол. Быхаўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 285, л. 1).

**ніць** (нить). Рыбалоўная снасць. [Орудія ловли на Припети:] „Нити, сѣтки, вентеры, криги, волочки и коши". Беласарока Дзярновіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 256, л. 4).

**нішкам** (нишкомъ). „Тайкомъ (каже нишкомъ, нишкомъ, да хапъ за чуприну)". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 19б — В. Сакалоў).

**норат** (нo̊ротъ). Нерат. „Ловятъ рыбу въ зимнее время большими неводами, а въ летнѣе подволоками, оборами и норотами". Уладзімірская вол. Гарадоцкага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с. 546, л. 5). Тапорская вол. Невельскага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с. 473, л. 7); Мікалаеўская вол. Полацкага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с. 576, л. 4). „...въ зимнее (время рыбу ловят) неводами и норотами". Царковішчанская вол. Вяліжскага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с. 605, л. 5).

**няхай** (нехай). „Пускай себѣ" Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20 — В. Сакалоў).

**няшчымна** (нещимно). „Без всякой заправы кушанье" Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20 — В. Сакалоў).

## О

**обоў** (обовь). Абутак. „Денегъ употребляетъ въ годъ на одежду 25 руб., такъ какъ тулупы для зимы дѣлаетъ изъ кожи своихъ овецъ, а носовы и сермяги покупаетъ, не исключая платковъ, обови и сарафановъ изъ бумажной матеріи". Вымнянская вол. Віцебскага пав.і губ. (ф. 34, с. 620, л. 16).

**огер** (огеръ). „Жеребецъ" Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20 — В. Сакалоў).

**окань** (окoнь). Вокунь. „Рыбы въ рѣках вылавливаются слѣдующихъ сортовъ: щука, окони, ерши, плотки, головни, вьюны и др." Абчугская вол. Сенненскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 597, л. 10б).

**осці** (ости). „Орудіе желѣзное въ родѣ вилокъ для убиванія рыбъ". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20б — В. Сакалоў).

## П

**павець** (павець). „Сарай о трёхъ стенахъ, для склада дровъ". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20б — В. Сакалоў).

**паганскі: паганскі час** (поганский часъ). Дахрысціянскі (час). Будслаўская вол. Вілейскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 482, л. 16).

**паганы** (поганы). „Нехорошій, дурной" Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20б — В. Сакалоў).

**пагноі** (погнои). Поле, якое ўгноена гноем (100 вазоў гною на дзесяціну). Буйнавіцкая вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 226, л. 5).

**паграбіца** (погребица). Ход да адтуліны пад печчу ў смалакурні. „Пѣчь для выгонки смолы устраивается в лѣсу..., а въ самомъ днѣ оставлыаютъ небольшое отверстіе; с наружи устраиваютъ къ тому отверстію ходъ, называемая погребица, гдѣ поставлено корыто, для стечи смолы..." Сіманічы Лельчыцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 237, л. 11).

**падвалока** (подволока). Падвалока. „Ловля... производится неводомъ, подволокою и другими малыми сѣтями". Чарэйская вол. Сенненскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 595, л. 9, 1873 г.). Орудія ловли: сѣть, бродникъ, подволока и нѣводъ". Друя і Чарэская вол. Дзісненскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 395, л. 5б, 1873 г.). Тапорская вол. Невельскага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с. 573, л.7). Уладзімірская вол. Гарадоцкага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с. 546, л. 5).

**падвалочак** (подволочекъ). Рыбалоўная снасць. „Орудія при ловлѣ рыбы: неводъ, подволочекъ, бродникъ, тригубица". Мірская вол. Дзісненскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 409, л. 6).

**падвалочка** (подволочка). Падвалока (невялікі невад). Ульская вол. Лепельскага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с. 555, л. 8б). Ханценчыцкая вол. Вілейскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 484, л. 7б).

**падглядываць пчо́лы** (подглядывать пчелы). Збірать мёд. „Съ наступленіемъ осени крестьяне ходятъ отъ улья къ улью подглядвать пчелы, какъ они выражаются, т. е. собирать медъ". Ленінская вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 230, л. 15).

**падлога** (подлога). Падлога. „...столь и подлога" Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, л. 233, л. 47б).

**паднемунцы** (поднѣмунцы). Назва жыхароў у Мікалаеўскім і суседнім сельскім вобчаствах, дзе гавораць па-беларуску. Люгашовіцкая вол. Ашмянскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 383, л. 2).

**падоска** (подъоска). Падосак. Дзеражычская і Яльчанская воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 257, л. 3б).

**падпасыч** (падпасычъ). Малапрацуючы падлетак. Свянцянскі пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 465, л. 7).

**падсвінак** (подсвинокъ). Падсвінак. „1нъ двухлетній кабанъ и 6-ро подсвинковъ" Беліцкая вол. Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 299, л. 26). Бельская вол. Лепельскага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с. 549, л. 4).

**падуст** (падустъ). Падуст. Нова-Быхаўская вол. Быхаўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 292, л. 8б).

**падцёлак** (подтелокъ). Падцёлак. „...есть дойныя коровы, 1-нъ подтелокъ". Беліцкая вол. Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 299, л. 26). Ивянецка-Старынская вол. Мінскай губ. (ф. 34, с.213, л. 6, 1872г.).

**пакінуць** (пакинуць). „Бросить, оставить" Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20б — В. Сакалоў).

**пакутаваць** (покутоваць). „Страдать". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20б — В. Сакалоў).

**паланкі** (паланки). Адыходы пры паланні круп. "печенымъ хлѣбомъ съ паланками и отрубями". Гарадзецкая вол. Быхаўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 290, л. 4б).

**па́ліца** (па́лица). Замацаваны лямеш. Свянцянскі пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 465, л. 7).

**паловы хлеб** (паловый хлѣбъ). Хлеб з мякінай. „Хлѣбъ, такъ называемый паловый — къ чистому зерну примѣшивается мякины". Мікалаеўская вол. Дзісненскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 400, л. 16).

**палоссе** (полосье). „Лыки на лапци съ молодой липы". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20б — В. Сакалоў).

**палушурок** (полушурок). Укладка смольных кавалкаў не больш 1 1/2 аршына даўжыні ў печы для выганкі смалы. „возить к устроенной для выгонки смолы пѣчи, кладеть ей в полушурки величины въ 2 аршина и 2 вершка въ кубѣ". Сіманічы Лельчыцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 237, л. 11, 1873 г.).

**паляшук** (полѣшукъ). Паляшук. Жыцінская вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 184, л. 1б).

**памост** (памостъ). „Полъ". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20б — В. Сакалоў).

**памошнік** (памошникъ). Памочнік, хто дапамагае ў працы. Перабродская вол. Дзісненскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 413, л. 5).

**панарад** (панарадъ). 1. Воз. Свянцянскі пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 465, л. 7). 2. Воз для важэння дроў, гною, без драбін, не акаваны. Крэўская вол. Ашмянскі пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 381, л. 3). 3. Колы. Кохановіцкая вол. Дрысенскага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с. 539, л. 4б).

**пансак** (пансакъ). „Крупа изъ толченого ячменя". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, л. 233, л. 21 — В. Сакалоў).

**папар** (попаръ). Папар. „Третье поле составляетъ попаръ и отдыхаетъ годъ". Зарэчна-Талачынская вол. Сенненскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 604, л. 1б). Лосвідская вол. Віцебскага пав. и губ. (ф. 34, с. 616, л. 1б).

**паплавы** (поплавы). Мурожныя сенажаці (іх мала, больш за ўсё балотныя). Буйнавіцкая вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 226, л. 8).

**папруга** (попруга). „Ремень вмѣсто кушака". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20б — В. Сакалоў).

**пара** (пара). Пара (дзве адзінкі). „Кожевникъ выдѣлываетъ овечихъ кожъ въ годъ до 1000, портной сшиваетъ платья разного до 100 паръ, шапокъ до 300, сапоговъ до 100 паръ, горшковъ до 20 возовъ выдѣлывается и баранковъ печетъ на 30 руб." Трабская вол. Ашмянскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 392, л.л. 10, 10б, 1873 г.).

**парабак** (паробокъ). Дарослы рабочы на сельскай гаспадарцы, які наймаўся да гаспадароў. Буйнавіцкая вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 224, л. 5б, 1873 г.).

**параванскі: параванскае масла** (параванское масло). Праванскі (алей). „Въ м. Вѣтринѣ находится одна домашняя лавочка, содѣржимая въ собственномъ домѣ евреемъ Копкою, въ которой находится сахаръ, чай, конфекты, сахарные стрики, сортовая водка, стеариновыя и полустеариновыя свѣчи, курительный табакъ 12-ти коп., (иногда впрочемъ бываетъ табакъ титови въ 20 коп.)., паролванское масло, пшеничная мука, соль и другія малости". м. Ветрына Лепельскага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с. 558, л. 2).

**параіць** (параиць). „ПосовЂтовать". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20б — В. Сакалоў).

**парань** (парень). Папар. „Поле, на которомъ былъ засЂянъ яровой хлЂбъ уже пустуетъ и называется паранью". Вымнянская вол. Віцебскага пав. и губ. (ф. 34, с. 620, л. 1б).

**парцéя** (порцéя). „Рюмка (якъ выпивъ порцію горелкі, водки, ашъ мнЂ глузды завЂрнуло)". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20б — В. Сакалоў).

**пасталы** (постолы). „Лапти" Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20б — В. Сакалоў). Буйнавіцкая вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 226, л. 3б).

**пастарнак** (пастарнакъ). Пастарнак. „РЂпа, брюква, морковь и пастарнакъ являются въ пищЂ — какъ праздничное блюдо конечно съ „закрасой" жирной, а морковь и пастарнакъ съ молокомъ. Пастарнакъ очень рЂдко встрЂчается и притомъ, какъ лакомство". Пустынская вол. Сенненскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 598, л. 4б). Стрэшынская вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 368, л. 7б).

**пасцілька** (пастилка). Посцілка, простыня. Івейская вол. Ашмянскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 379, л. 5б, 1872 г.).

**патрава** (потрава). Боршч квашаных буракоў. «Свёкла же „бураки" идётъ для приготовленія кислыхъ щей „потравы или вари"». Івейская вол. Ашмянскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 379, л. 5б, 1872 г.).

**патыліца** (патылица). „Затылокъ" Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20б — В. Сакалоў).

**паўзлотка** (павзлотка). Сем з паловай капеек. «Фунтъ грибовъ „за павзлотку (7 1/2 коп.)", а гарнецъ ягодъ — вмЂсто 60 коп. „за золотовку" (15 коп.)». Юр'евічы Барысаўскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 188, л. 4).

**паўзуха** (ползуха). Від сахі. „Сохи-ползухи съ плахою деревянною полулежачею въ два нарога однаконныя съ упражкою въ оглобли и дугу". Грабенская вол. Ігуменскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 202, л. 7).

**паўкрыжак** (полъкрижекъ). Рыбалоўная снасць. Капаткевіцкая вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 228, л. 4б).

**паўроз** (поврозъ). Вяроўка. Поразаўская вол. Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. (ф. 34, с. 88, л. 5).

**пахт** (пахтъ). Летняе арандаванне дойнай каровы. „...въ болЂе крупныхъ имЂніяхъ коровы отдаютсы въ пахтъ — от 10–13 руб. каждая корова". Салечнікская вол. Виленскай губ. (ф. 34, с. 512, л. 7б).

**пахта** (пахта). Летняе арандаванне дойнай каровы. „А въ нЂкоторыхъ помЂщиковъ въ хозяйствахъ своихъ устраиваютъ пахты... СодЂржатель пахты въ періодъ времени съ 1-го мая по 10 ноября (по ст. ст.) одного года, обязуется за всякую корову платить 8–9–10 рублей, соображаясь

съ темъ, какъ много можетъ ежедневно давать молока". Мірская вол. Дзісненскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 409, л. 5).

**пацвелівань** (пацвеливать). „Насмѣхаться, трунить". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20б — В. Сакалоў).

**пелі** (пели). Прабітыя ў ільдзе ямкі. Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка паміж л. б. р. Прыпяць і р. Пціч Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 37б).

**перапечы** (пирапечи). Пірагі. „А на печи пирапечи (пироги), На прыпячку каша". Колкаўскае вучылішча Рэчыцкага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 263, л. 14б).

**персцень** (персцень). „Кольцо" Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20б — В. Сакалоў).

**печ** (печь). Печ. „Свои домашніе печи хозяева из глины и камня сбивают сами; трубы же къ печамъ не продѣ лываются". Мільчанская вол. Барысаўскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 172, л. 13, 1872–1873 гг.).

**печ: белая печ** (бѣлая печь). Печ у хаце, якая мае комін. Стараруднянская вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 366, л. 6, 1873 г.). „Чистая изба имѣетъ бѣлую печь и деревянный полъ, — черная — курную печь и земляной полъ". Дубатоўская вол. Свянцянскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 444, л. 6б).

**печ: курная печ** (курная печь). Печ у хаце, якая не мае коміна. „Печи бѣлыя і курныхъ нѣтъ по всей волости (Старо-руднянской)". Стараруднянская вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 366, л. 6, 1873 г.). „Въ нѣкоторыхъ варивняхъ устраиваются глиняныя курныя печи, въ цѣли предохраненія въ зимнее врѣмя отъ замерзанія припасовъ". Асінгарадок Луцкай воласці Дзісненскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 406, л. 2, 1872 г.).

**пешня** (пѣшня). „Инструментъ для выдѣлки ульевъ" Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20б — В. Сакалоў).

**пік** (пик). Бітум. „въ м. Пропойскъ пиковаренный заводъ". Старынкаўская вол. Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 306, л. 1б).

**піліпон** (пилипонъ). „Русскій торговецъ-коробочникъ" Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20б — В. Сакалоў).

**піць** (пить). Піць. „Пій на здоровье". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 51 — В. Сакалоў).

**плейтух** (плейтух). Яўрэй. Беліцкая вол. Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 299, л. 9).

**плесці**. Плесці. „Ситы и рѣшаты плясци". Юр'евічы Барысаўскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 188, л. 7б).

**плець** (плеть). Пчалярская вяроўка для падняцца вулея і сябе на дрэва. „4 плетей для пчелъ". Стрэшынская вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 367, л. 7).

**плечы** (плечи). Плечы. „бывало за бацьковыми плячима и вся хата спокойная..." Юр'евічы Барысаўскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 188, л. 6б).

**пляц**. Ніва за агародам, дзе пераважна сеюцца каноплі, лён, ячмень, пшаніца і бульба. Старыя Юркавічы Гомельскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 313, л. 2б).

**подкур** (подкуръ). Прыстасаванне каля вулеяў на дрэвах для абароны ад нападу мядзведзяў. Якшыцкая вол. Ігуменскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 203, л. 8).

**пойла** (пойло). Цёплая вада з мёдам, якую даюць живёле калі аблазіць жывёлы язык. Буйнавіцкая вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 226, л. 8б).

**полаг** (пологъ). Палаткі. „ ...отъ печи до другой стѣны устраивается досчатый пологъ для спанья". Вяжышчскі прыход Лепельскага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с. 559, л. 1б).

**полачы** (полочи). Нязначныя маленькія азёрцы. „Озеръ и горъ въ описываемой мѣстности нѣтъ, кромѣ незначительныхъ маленькихъ озерецъ, называемыхъ по здѣшнему нарѣчію полочами". Ленінская вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 230, л. 1б, 1872–1873 г.).

**поплаў** (поплавъ). Рыбалоўная снасць. „Рыболовство существуетъ въ само цвѣтущемъ видѣ какъ промыселъ въ д. Гольцахъ и Бережцахъ. ... Способы орудія ловли: жаки, нероты, сети, ости, поплавы". Плотніцкая вол. Пінскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 250, л. 3б). Буйнавіцкая вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 226, л. 8б).

**поршні** (поршни). Лапці са скуры. Віцебская губ. (ф. 34, с. 530, л. 5б, XX ст.).

**пра** (про). Для, дзеля. „Употребляется чай, сахаръ; пуд-другой пшеничной, покупной муки, но въ маломъ количествѣ, про человѣка (по-мѣстному выраженію) чаще, и редко — про себя". Бескатаўская вол. Гарадоцкага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с. 543, л. 3). — „Амаль выйшаў з ужытку для выражэння мэтавых адносін з адценнем прызначэння ў сучаснай беларускай літаратурнай мове прыназоўнік *пра*. Гэты прыназоўнік ужываецца ў асноўным ва ўстойлівым выразе *пра запас*". В. Г. Зялёнка „Варыянтныя спосабы выражэння адносін прызначэння ў сучаснай беларускай літаратурнай мове". — Весці Акадэміі навук Беларускай ССР, Но. 1, 1987. Серыя грамадскіх навук, стар. 102.

**прабачыць**. Прабачыць, даравать. „Прабычайте". Рудзянец Гомельскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 312, л. 1б).

**прато** (прото). „Потомъ" Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20б — В. Сакалоў).

**прахарашыць** (прахарашить). „Прочистить, замѣсть". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20б — В. Сакалоў).

**працэсіі** (процесіи). „Хоругвы". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20 — В. Сакалоў).

**прачухацца** (прочухаться). „Протрезвиться". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20б — В. Сакалоў).

**проскурка** (проскурка). „Просфора". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20 — В. Сакалоў).

**протар** (проторъ). „Игла безъ ушка сломанная". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20б — В. Сакалоў).

**прохаты** (прохаты). Прасіць. Жабчынская вол. Пінскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 255, л. 6б).

**прохаці** (прохати). Прасіць. Ставокская вол. Пінскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 252, л. 1).

**пруд** (прудъ). Штучнае возера, ставок. Горы Горскай вол. Чавускага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 296, л. 1б).

**прыварак: хлебны прыварак** (хлебный приварокъ). Усе страўныя харчы, ядомыя прыпасы. „При жилыхъ избахъ строются у крестьянъ сопредельно такъ называемыя варивни, въ которыхъ помещаются всѣ жизненные продукты, как-то: хлѣбный приварокъ, картофель, бураки, капуста рубанная и сложенная в кади, брюква, морковь и проч". Асінгарадок Луцкай воласці Дзісненскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 406, л. 2, 1872 г.).

**прыгоршчы** (прыгорщи). Прыгарщы. «Взбрасывая руками „пригорщами" воду на овцу, моетъ руками, разшурхивая шерсть въ стороны». Граўжышская вол. Ашмянскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 377, л. 13).

**прызба** (призба). „Насып песку кругомъ дома". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20б — В. Сакалоў).

**прыізба** (приизба). Прызба. „Возлѣ хаты дѣлается приизба или зовалина...". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 47 — В. Сакалоў).

**прыкеміць** (прикѣмиць). „Примѣтить, замѣтить". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20б — В. Сакалоў).

**прыкладацца** (прикладацца). Набываць навыкі. „ещё маленькій, ёнъ ничого яще не знаець, а кали я роблю, майструю, то ёнъ мнѣ свѣциць ци такъ сядзиць, и разумѣяцца, съ маленства прикладаяцца майстраваць". Юр'евічы Барысаўскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 188, л. 7).

**прымацї** (примати). Прымаць. „Чимъ далъ богъ будземъ примати, говорить хозяинъ, наливая въ миску водку и кладя возлѣ ней деревянный ковшичекъ или мѣрку. Подходите выпьемъ” Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 49б — В. Сакалоў).

**прыпарны** (припорный). Напружаны (пра дні касавіцы і жніва). Лукомльская вол. Сенненскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 596, л. 2б).

**прапінацыя** (пропинація). Дадзенае памешчыкам права адной асобе, якая займаецца продажам хлебнай гарэлкі. Пастаўская вол. Дзісненскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 414, л. 16).

**прыпунька** (припунька). Хлевушок. Бескатаўская вол. Гарадоцкага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с. 543, л. 2).

**прысада** (присада). Сухастойнае дрэва. „Присада... сухоподсточное дерево”. Буйнавіцкая вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 226, л. 13).

**прычынны** (причинный). „Хорошъ, приличный” Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20б — В. Сакалоў).

**пстронга** (пстронга). Стронга. „Сула..., рѣчка каменистая... в ней... фарель, или по-мѣстному названію, пстронга, щука, плоть, окунь и ершъ”. Рубяжэвічы Вяліка-Сельскай вол. Мінскай губ. (ф. 34, с. 216, л. 7, 1872 г.).

**пуга** (пуга). „Кнутъ”. Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20б — В. Сакалоў).

**пуня** (пуня). Хлеў для складвання і захоўвання сена. Мільчонская вол. Барысаўскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 191, л. 19, 1872–1873 гг.). Свыанцянскі пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 465, л. 7).

**пур** (пуръ). Мера сыпкіх рэчываў. „Такъ, пшеница, горохъ и ячмень сѣются рѣже 1 1/2 пура на одну дѣсятину (1 пуръ равн. 3 четверикамъ), а иногда и болѣе...” Мірская вол. Дзісненскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 409, л. 2б).

**пура** (пура). Мера сыпкіх рэчываў. „Пура равняется 3 четверикамъ зерна” Чарэская вол. Дзісненскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 395, л. 2б). Пура — (мера сыпкіх рэчываў) роўная па „мѣжной мѣрѣ — 36 гарнцевъ” Жэйменская вол. Ковенскага пав. і губ. (ф. 34, с. 107, л. 3).

**пустка** (пустка). 1. Пустка (зямля, якая не апрацоўваецца). „Подъ пусткою разумѣютъ необрабатываемые полосы земли всякой то есть — усадебной, пахотной, сенокосной и др., находящейся между крестьянскими надѣлами и поступившей въ надѣлы на выкупъ, а оставшейся собственностію помѣщика по той причинѣ, что владѣвшій этой полосою крестьянинъ во времена крепостной зависимости, или умеръ, или отданъ въ военную службу, или взятъ въ дворъ къ помѣщику вмѣстѣ съ имѣніемъ”. Ратайчыцкая вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. (ф. 34,

с. 32, л. 1б). 2. Арэндны ўчастак зямлі, на якім няма ніякіх „дваровых выгод” (дома, хлявоў, агароджы г. д.). Мільчанская вол. Барысаўскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 191, л. 20, 1872–1873 гг.).

**пух** (пухъ). Пух. „Фунтъ пуху 45 к., перья фунтъ 20 к. сер.” Глыбоцкая вол. Дзісненскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 398, л. 5).

**пучок** (пучекъ). Сноп сцяблоў канапель. „Близко четверика конопли при 40 пучкахъ стебла”... Хмялёў и Дземанічы Турнянскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. (ф. 34, с. 18, л. 2).

**пушча** (пуща). „Большой лесъ”. Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20б — В. Сакалоў).

**пярэвесла** (перевесло). „Горсть соломы, которою вяжутъ снопы”. Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20б — В. Сакалоў).

**пярэплат** (переплатъ). Прыстасаванне з жардзін для прасушвання снапоў, сена. Пастаўская вол. Дзісненскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 414, л. 9).

**пярэсты** (перестый). „Пестрый”. Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 20 — В. Сакалоў).

## Р

**рабіннік** (рабинник). Рабінавы зараснік. :Лйзненская вол. Аршанскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 346, л. 1б).

**раданіца** (радоница). Памінанне нябожчыкаў у аўторак на фоміным тыдні. с. Мосар Бельскай вол. Лепельскага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с. 549, л. 5).

**радаўніца** (радовница). Гандлёвы дзень у аўторак на фаміным тыдні. Вілейская вол. Вілейскага пав. Вілейскай губ. (ф. 34, с. 506, л. 1, 1872 г.).

**рагатаць** (рагатать). „Смѣяться”. Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, л. 233, л. 21 — В. Сакалоў).

**разваліны** (развалины). Сані, якія абшыты дранкай або лубком. Крэўская вол. Ашмянскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 381, л. 3).

**развальні** (развальни). Сані, якія абшыты дранкай або лубком. „Развальни на рябиновыхъ полозьяхъ стоятъ 1 р. 50 к., на кленовыхъ — 2 р...” Крэўская вол. Ашмянскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 381, л. 3).

**разтворча(с)ты** (разстворчастый). Пра вакно, якое разчыняецца на дзве палавіны. „Окна въ домахъ у всѣхъ малыя, даже очень рѣдко у кого есть разстворчатыя”. Старaруднянская вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 366, л. 6, 1873 г.).

**раіць** (раиць). „Совѣтовацъ”. Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, л. 233, л. 21 — В. Сакалоў).

**раптам** (раптамъ). „Неожиданно, внезапно" Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, л. 233, л. 21 — В. Сакалоў).

**распуціцца** (распутиться). „Уничтожиться?" „А паненка дрогенька, чтобы вы распутились". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 18 — В. Сакалоў).

**рахуба** (рахуба). „Счйтъ". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 21 — В. Сакалоў).

**ро́биць** (ро́биць). Рабіць.„Зато мы панщины не ро́били, што бондарство знали". Юр'евічы Барысаўскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 188, л. 6б).

**родзінка** (родзінка). Пушны хлеб, хлеб з мякінай. «Крестьяне ѣдятъ хлѣбъ пушной, называемый родзинкой", т. е. какъ уродилъ на полѣ». Багданаўская вол. Барысаўскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 195, л. 1б).

**розвальні** (розвальни). Від саней. Бескатаўская вол. Гарадоцкага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с. 543, л. 2).

**ру́бель** (ру́бель). Жардзіна для ўціскання снапоў і сена на возе. „ру́блевъ для возки хлѣба въ снопахъ и сѣна 14". Стрэшынская вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 368, л. 7).

**рулі** (рули). „Тюръ, русская пища" Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, л. 233, л. 21 — В. Сакалоў).

**русак** (русакъ). Польская назва жыхароў Астрынскай вол. Лідскага пав. Виленскай губерні (ф. 34, с. 431, л. 1).

**русін** (русинъ). Польская назва жыхароў Астрынскай вол. Лідскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 431, л. 1).

**русь** (русь). Польская назва жыхароў Астрынскай вол. Лідскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 431, л. 1).

**ручнік** (ручникъ). „Утиральник–полотенце". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, л. 233, л. 21 — В. Сакалоў).

**рыбалоўчыкі** (рыбаловчики). Назва птушак, якія жывуць у траве на рыбным возеры Нікадзімаўскім каля м. Горы Горскай вол. Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 296, л. 1б). Параўн.: рыбало́ў („рыбало́ў — ча́лічка тыкая". Сянно, 1987, наш запис).

**ры́дзель** (ры́дель). Жалязняк, рыдлёўка. Свянцянскі пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 465, л. 7).

## С

**сад** (садъ). Сад, садок. „Въ деревнѣ Кукшевичахъ на шесть хозяевъ приходится одинъ садъ; а в деревнѣ Палковѣ на десять хозяиновъ одинъ садъ; эти сады состоятъ изъ 5, 10, 15–20 деревьевъ". Станкаўская вол. Мінскага пав. і губ. (ф. 34, с. 221, л. 3). „Корни содовъ" Перабродская вол. Дзісненскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 413, л. 5б).

**саладуха** (солодуха). „Кушанье изъ муки или калины". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, л. 233, л. 21 — В. Сакалоў).

**салдат** (солдатъ). Салдат. „Въ Годутишской волости солдатовъ 29 душъ мужского пола и 3 женского пола, татаровъ 12 душъ мужского пола и 5 душъ женского пола". Гадуцішская вол. Свянцянскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 441, л. 1).

**салоп** (салопъ). Вопратка? „Салопы отъ 25 до 30 рублей каждый". Лужская вол. Дзісненскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 407, л. 1б).

**салфетка** (салфетка). Настольнік. «Изъ льна изготовляется простой грубой холстъ для сшивки... простынь, „постилокъ", скатертей „настольниковъ" или салфеток». Івейская вол. Ашмянскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 379, л. 5б, 1872 г.).

**сам-пяты** (самъ-пятый). Мера? „...льну 6 гарн. собирается зерна, примѣрно самъ-пятый, соломы 12 возъ, льну 2 копы, сена 16 возъ". Стрэшынская вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 368, л. 9).

**сама-пяты** (само-пятый). Мера? „Въ огородахъ обыкновенно сѣются: картофель, свекла, капуста, бруква, огурцы, арбузы простыя, макъ, посторнакъ и бобы, собираются само-пятое зерно". Стрэшынская вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 368, л. 7б).

**саматушкі** (саматушки). „Маленькая повозка, таскаемая собою". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, л. 233, л. 21 — В. Сакалоў).

**сам-шэсць** (самъ–шесть). Мера? „Среднiй урожай въ послѣднихъ четырехъ годахъ (1869–1873 гг.) былъ: на рожь — самъ-шесть, на ячмень — самъ-семъ, на овес — самъ-четыре..." (ф. 34, с. 534 а, л. 2).

**сані: простыя сані** (простые сани). Сані, якія не абшыты лубком і прызначаны вазіць дровы. Крэўская вол. Ашмянскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 381, л. 3).

**саха: літоўская саха** (литовская соха). Шырокаўжывальная саха з жалезнымі нарогамі і паліцай, а ўсе астатнія часткі драўляныя. Крэўская вол. Ашмянскага пав. Виленскай губ. (ф. 34, с. 381, л. 3).

**сапежынкі** (сапежинки). Грушы. „Груши–бери, винные и сапежинки". Вялікасельская вол. Мінскага пав. і губ. (ф. 34, с. 223, л. 2б).

**сарна** (сарна). Сарна. Заастравецкая вол. Слуцкага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 283, л. 6).

**саўсімацька** (совсимацка). Зусім. Бычанская вол. Быхаўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 285, л. 1).

**сачавіца** (сочевица). Сачавіца. „Такъ называемую сочевицу сѣютъ только крестьяне только для своего употребленія". Ленінская вол. Ма-

зырскага пав. Мінскай губ.(ф. 34, с. 230, л. 5б). Капаткевіцкая вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 228, л. 2).

**сачыўка** (сачивка). Сачавіца. Бычанская вол. Быхаўскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 285, л. 1б).

**сачыць** (сочить). Шукаць. „Въ рѣчи раскольниковъ есть белорусские слова: йнъ, сочить вмѣсто искать; ихъ очень мало". Узульмуйжанская вол. Рэжыцкага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с. 585, л. 2б). Сачыць, пільнаваць. Краснагорская вол. Нова-Аляксандраўскага пав. Ковенскай губ. (ф. 34, с. 166, л. 1).

**сведкі** (свѣтки). „Свидѣтели". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 21 — В. Сакалоў).

**свеклавіца** (свекловица). Чырвоныя (сталовыя) буракі. „Свекловица (бураки красные) занимаютъ послѣ картофеля первое мѣсто между корнеплодами..." Пустынская вол. Сенненскага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с. 598, л. 4б). „На огородѣ сѣется: свѣкловица, фасоль и капуста". Турнянская вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. (ф. 34, с. 19, л. 7б). „Свекловица, бруква". Якшыцкая вол. Ігуменскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 203, л. 5б).

**сверан** (сверенъ). Свіран. „Въ сверни хлеба запасъ". Слонімскі пав. Гродзенскай губ. (ф. 34, с. 70//1, л. 8).

**свердзел** (сверделъ). „Буравъ". Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, л. 233, л. 21 — В. Сакалоў).

**свіння: Парфена свінні з'елі** (Парфена свиньи съели). Адпавядае бы: „Зарабіў, як Заблоцкі на мыле". Для прыказкі паслужыў выпадак. Багаты чалавек Парфен паслухаў „парады", каб стаць багацей, то трэба ўвесь свінячы прыплод пускаць на племя. За 10 год йн меў больш 200 свінней, а праз 5 яшчэ хадзіў ужо на заробкі, каб пракарміць сям'ю. Жарт згубіў яго. Да гэтага йн не ведаў ліку сваім грашам. Узнясенская вол. Полацкага пав. Віцебскай губ. (ф. 34, с. 579, лл. 1, 1б).

**свінтар** (свинтарь). Цвінтар, месца за агароджай царквы. Лйзненская вол. Аршанскага пав. Магілёўскай губ. (ф. 34, с. 346, л. 1б).

**свіран** (свиренъ). „Амбаръ. Петрыкаўска-Капаткевіцкая частка Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 233, л. 21 — В. Сакалоў).

**свярдзёлак** (свердёлокъ). Свярдзёлак. Юр'евічы Барысаўскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 188, л. 6б).

**сем'яністы** (семьенисты). Многадзетны, шматсямейны. „если который хозяинъ семьенисты, такихъ стусовъ поставить за весну и осень 3 стуса лучины". Сіманічы Лельчыцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. (ф. 34, с. 237, л. II).

**сенгагус** (сенгогусъ). Мясцовая хвароба на рагатую жывёлу. Яна здараецца ад з'ядання павуціны з травой, пасля чаго выяўляецца цячэнне сліны і перастае жывёла прымаць ежу. Для лячэння яе „бросаютъ кровь

